Рэха

# Кінарэжысёр Віктар Дашук паказаў прыклад сапраўднай інтэлігентнасці

У грамадскіх колах сталіцы працягваюць абмяркоўваць артыкул кінарэжысёра Віктара Дашука, апублікаваны ў «Народнай газеце» 13 чэрвеня г.г., — «Я хачу, каб лёс беларусаў не быў падобны на лёс вымершага народа майя...» Адзначаецца высокая грамадзянская годнасць кінамайстра, ягоны нepрыхаваны боль з прычыны таго, што той, каго ён вучыў, здрадзіў свайму настаўніку, а ўрэшце і ўласнаму таленту, не кажучы пра народ, уведзены ў зман фільмам Ю.Азаронка «Ненавісць: дзеці хлусні». Фільм, названы «дакументальным», сцвярджае вядомы кінарэжысёр, народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Віктар Дашук, на самай справе парушае ўсе этычныя нормы, згодна якіх ствараецца дакументальнае кіно. «Упэўнены, — заўважае ён, — калі б Прэзідэнту расшыфравалі некаторыя «рэжысёрскія» прыёмы ў фільме, ён бы крыху інакш ставіўся да гэтай агіткі». Дай то Бог, многім вельмі хочацца верыць, што вярхоўныя кіраўнікі добрыя, толькі іх зводзяць у зман нядобрасумленныя памочнікі. Але адкуль такія памочнікі тады бяруцца?

Многіх уражваюць вельмі балючыя думкі кінамайстра пра сутнасць паняцця «народ». Але ж у гэтае паняцце ўваходзіць такое, як «бомжы», слушна адзначае Віктар Дашук, і гэтых людзей «без определенного места жительства», што не разумеюць, ці то ў Беларусі яны жывуць, ці то ў Расіі, вельмі лёгка замбіраваць, унушаць ім, што ім будзе добра і сытна, вось толькі зноў трэба адабраць маёмасць у «багатых» і «справядліва» падзяліць паміж «беднымі». І на рэферэндум прыйшлі «бомжы», і дэпутатаў па падказцы выбралі яны. Але, заўважыў Віктар Дашук, хіба гэтая частка народа, якая стала дзякуючы шматгадоваму камуністычнаму рэжыму большасцю, «можа прыняць разумнае рашэнне для будучых пакаленняў беларусаў?»

Пры ўсёй горычы сказанага вядомым кінамайстрам яго не пакідае спадзяванне, што застаецца яшчэ сродак, які зможа з цягам часу вылечыць народ ад неасэнсаванай прагі калектыўнага самагубства, — гэта культура. Але не абстрактная, «усіхняя», а нацыянальная, якая б вучыла паважаць уласную гісторыю, звычаі, традыцыі і ўрэшце — мову, якая патрэбна перш за ўсё для захавання нацыі. У гэтым Віктара Дашука рашуча падтрымліваюць усе культурныя і свядомыя людзі на Беларусі, якога б, дарэчы, нацыянальнага паходжання яны ні былі.

**Ул.Ас.**

# Калі і расійская мова не дапамагае

Газета «Советская Белоруссия» апублікавала (7.06.95) звесткі пра падпіску на перыядычныя выданні на трэці квартал, пахваліўшыся, што ў яе значная колькасць падпісчыкаў. Магчыма, але ж куды меней, чым раней. Усё ж звычка нашага насельніцтва пераважна чытаць расійскамоўныя тэксты, да якіх іх так старанна прывучалі ўлады, пачынае памалу слабець. Асабліва ў апошнія месяцы, калі прэзідэнцкая «вертыкаль» практычна падпарадкавала сабе ўсе штодзённыя агульнанацыянальныя газеты. Аднабаковая, а часта і накіраваная супраць «нацыяналістаў» інфармацыя ў афіцыёзах пакрысе працуе супраць тых, хто гэтым займаецца. Інакш паспя, здавалася б, «пераможнага» рэферэндуму па пытаннях Прэзідэнта тыражы расійскамоўных газет павінны былі б узляцець да нябёсаў, а яны наадварот — зніжаюцца. Асабліва яскрава гэта бачна на прыкладзе некалі папулярных маладзёжных выданняў і канкрэтна газеты «Знамя юности». Некалі яе тыраж сягаў амаль да мільёна. А цяпер, у трэцім квартале гэтага года, на «знамёнку», як некалі яе пават"тліва называлі, падпісалася ўсяго каля 19 тысяч чалавек. Значыць, асноўная маса моладзі не прыняла курс рэдакцыі на падтрымку славянасаборайцаў і нацыянальнага разбурэння Беларусі.

**Ул.Ас.**

Ліст з каментарам

# Неадкладна спыніць разбеларусізацыю пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школы!

Спачатку дамо магчымасць падпісчыкам «Нашага слова» прачытаць ліст Грамадскага Каардынацыйнага Камітэта абароны беларускай мовы да Міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Васіля Стражава. Мяркуем, пісьмо вартае таго, каб падаць яго цалкам у газеце.

«Паважаны спадар Міністр!

Большасць камісіяў Вярхоўнага Савета Беларусі ў свой час абгрунтавана выступілі супраць рэферэндуму па прапанаваных Прэзідэнтам пытаннях. Супраць рэферэндуму выказала свой пратэст апазіцыя ў ВС. Выключна адмоўнае стаўленне да правядзення такога рэферэндуму выказалі кампетэнтныя арганізацыі краіны — Акадэмія навук, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы, прафесура і студэнты вышэйшых навучальных устаноў, прагрэсіўнае грамадства, патрыятычныя сілы. І, нарэшце, Старшыня Канстытуцыйнага Суда Беларусі 22 сакавіка таксама выказаўся аб немагчымасці правядзення рэферэндуму па пытаннях, якія парушаюць невад'емныя правы народа Беларусі на нацыянальную дзяржаўнасць і суверэнітэт, на гарантаванае існаванне беларускай нацыянальнай культуры і мовы, спасылаючыся на 3 артыкул дзеючага Закона аб рэферэндуме. Тым не менш, антыбеларускія сілы правялі рэферэндум, які суправаджаўся грубымі парушэннямі і арганізаванай паклёпніцкай прапагандай, скіраванай супраць дзяржаўных сімвалаў, мовы, культуры нашага народа, яго суверэнітэту.

Усё гэта дазваляе Грамадскаму Каардынацыйнаму Камітэту абароны беларускай мовы заявіць наступнае.

Праведзены ў Беларусі рэферэндум з'яўляецца цалкам незаконным. Ён парушае правы карэннага насельніцтва нашай краіны. Вынікі рэферэндуму з'яўляюцца незаконнымі і падлягаюць ануляванню. У сувязі з гэтым дзеянні Міністэрства адукацыі і навукі, скіраваныя на разбурэнне беларускай школы, лічым таксама незаконнымі, амаральнымі і злачыннымі. Патрабаванне Міністэрства камплектаваць першыя класы на падставе выбару мовы навучання з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якой сказана, што дзяржаўнай мовай у нашай краіне з'яўляецца беларуская мова. Але ёсць пагроза ліквідацыі і ўжо існуючых беларускіх класаў. Такая дзейнасць Міністэрства адукацыі і навукі парушае правы грамадзян Беларусі і дае нам падставы звяртацца ў праваахоўныя органы. У сувязі з вышэй сказаным Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы патрабуе ад Міністэрства адукацыі і навукі:

**1. Неадкладна спыніць разбурэнне беларускай школы.**

**2. Адклікаць указанне Міністра наконт таго, каб у практыцы фарміравання першых класаў абапірацца на вынікі рэферэндуму.**

**3. Захаваць існуючы стан беларускай школы, які склаўся да 14.05.1995 г.**

**4. Спыніць апытанне бацькоў будучых першакласнікаў і бацькоў школьнікаў беларускіх класаў на прадмет выбару мовы навучання.**

**5. Забяспечыць і правесці набор дзяцей у першыя беларускія класы краіны.**

**6. Стварыць беларускамоўную сістэму ВНУ, стварыць беларускі Нацыянальны Універсітэт.**

**7. Навучальныя ўстановы новага тыпу павінны быць беларускія.**

**8. Падрыхтаваць да выдання беларускія падручнікі, іншыя дапаможнікі па ўсіх прадметах школьнай праграмы, ССНУ і ВНУ.**

**9. Захаваць правы навучальных устаноў прымаць уступныя экзамены толькі па беларускай мове і літаратуры.**

**10. Захаваць беларускамоўныя садкі і забяспечыць перспектыву іх развіцця.**

**11. Працягваць і развіваць удасканаленне настаўнікаў на беларускай мове навучання.**

**12. Забяспечыць ва ўсёй сістэме адукацыі прыярытэт развіцця беларускай мовы.**

У практычнай дзейнасці Міністэрства павінна абапірацца на Канстытуцыю Беларусі, Закон аб мовах і Закон аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

КАМЕНТАР «НАШАГА СЛОВА»

***Першыя два тыдні чэрвеня былі для Грамадскага Каардынацыйнага Камітэта абароны беларускай мовы даволі насычанымі на падзеі і напружанымі ў змаганні на ніве менавіта абароны роднага слова. Бо, як ужо бачна з ліста да Васіля Стражава, ёсць прамая небяспека, што «вертыкаль», якая на розных паверхах выканаўчай улады мае дачыненне да пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школ, а таксама — дашкольных устаноў, распачалі пасля сумнавядомага рэферэндуму знішчэнне беларускамоўнасці ў выкладанні прадметаў, ды выхавання дзяцей і моладзі, а таксама стварэння беларускамоўнага асяроддзя ў сістэме адукацыі.***

***Прадстаўнік рэдакцыі «Нашага слова» Алесь Мікалайчанка, які на днях разам са сваімі калегамі па згаданаму Камітэту — вучоным Васілём Юферавым, мастаком Міколам Купавам і педагогам Людмілай Дзіцэвіч, — уручаў спадару Міністру прыведзенае вышэй пісьмо, задаў Васілю Іванавічу Стражаву пытанне: ці не адбудзецца шляхам арганізацыі расійскамоўных класаў у беларускіх школах фактычнае касаванне нацыянальнага статусу гэтых школ?***

***Васіль Іванавіч адказаў, што, мяркую, у кожным канкрэтным пытанні ўсё залежыць ад добрай волі бацькоў.***

***Ну што тут скажаш? Мусіць, нічога, акрамя таго, што зноў нашыя афіцыйныя асобы хаваюць свае намеры па разбеларушчванню беларусаў «воляй народа» ды «рэвалюцыйнай мэтазгоднасцю бягучага моманту». Якія знаёмыя спекуляцыі на духоўных хваробах зрусіфікаванай ды збальшавізаванай асноўнай масы насельніцтва Беларусі! І зноў з той жа мэтай: усё, што «пагражае» Адраджэннем нацыі — да пазногця!***

***Мо, наш Прэзідэнт пазайздросціў лаўрам Мікалая І, які, пачынаючы з 1832 года, стаў зачыняць беларускія школы і ВНУ?***

***Мяркуем, бліжэйшы час дасць выразны адказ на гэта ды іншыя пытанні — 1 верасня 1995 года не за гарамі — далёкімі лясамі. Адно зразумела: на абарону дзяржавы ад новай хвалі этнацыду нам разлічваць няма як. Ратаваць трэба самім, усёй беларускай грамадой. Таму, між іншым, і прагучала на адным з пасяджэнняў Каардынацыйнага Камітэта абароны беларускай мовы прапанова: тэрмінова стварыць Камітэт ратавання беларускай нацыі...***

# А хто пытаўся галасоў нашых продкаў і нашых нашчадкаў?

**ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ!**

Не Вы вырашалі лёс сваёй дзяржавы, гістарычнай спадчыны, роднай мовы на нядаўнім прэзідэнцкім рэферэндуме. За кожнае з чатырох пытанняў станоўчы адказ далі крыху больш за 50% выбаршчыкаў, унесеных у спісы (а за змену гісторыкадзяржаўных сімвалаў — менш за 48%).

І гэта з улікам шматлікіх парушэнняў заканадаўства, бруднай паклёпніцкай хвалі ў адрас носьбітаў беларускай культуры, якая ў апошнія месяцы захліснула афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Пра гэта шмат гавораць замежныя назіральнікі, міжнародная супольнасць і дэмакратычная грамадскасць Беларусі.

А калі ўлічыць патэнцыяльныя, але нявыказаныя пакуль галасы людзей новага пакалення — нашых дзяцей, падлеткаў, якія ў беларускіх нацыянальных садках і школах адчулі смак роднага слова? Іх — мільёны! **А хто пытаўся галасоў шматлікіх пакаленняў нашых продкаў, якія аднымі з першых у Еўропе выдавалі кнігі, таксама і кнігі на беларускай мове, стварылі унікальную духоўную і матэрыяльную культуру, заможную і вялікую дзяржаву, шырока вядомую ў свеце?**

**Хто запрашаў на ганебны «прэзідэнцкі» рэферэндум мільёны ахвяр сталінізму і фашызму, іх ненароджаных дзяцей і ўнукаў?** А яны маглі і быць нашымі з вамі сучаснікамі і падалі б свой голас у абарону Бацькаўшчыны, яе святыняў, сваёй дзяржавы.

І вынік рэферэндуму быў бы іншы... Нас знявечылі дзесяцігоддзямі праклятай паняверкі, падвялі да рысы нацыянальнадзяржаўнага самазабойства. А цяпер растапталі. Не без нашага, шмат каго з нас, удзелу.

Трэба цвёрда разважыць і зразумець, што не Расія, не расійскі шматпакутны народ стварае перашкоды на шляху будаўніцтва беларускага дзяржаўнага дома. Грымучая сумесь, якая стварылася ў Расіі з дзікунскага капіталізму, фашыстоўска-імперскіх палітычных структур, пабытавай абывацельшчыны і вялікадзяржаўніцкіх настрояў, — вось што пагражае «ўзарваць» і расійскае, і беларускае маладое грамадзянскае супольніцтва.

Што ж датычыць беларускай мовы — па выніках псеўдарэферэндуму яе статус не ўроўнены з расійскай, якая панавала і пануе ва ўсіх галінах жыцця краіны. Вынікі антыканстытуцыйнага рэферэндуму паслужаць бруднай справе тых, хто хоча навек пахаваць мову нашага народа, якая мае тысячагадовую гісторыю.

Усе мы — беларусы, расійцы, украінцы, палякі, татары, яўрэі, летувісы ды іншыя грамадзяне краіны — браты і сёстры, суайчыннікі. І наша беларуская мова — Ваша мова. Яна адна. І мы адны ў свеце. І няма нам іншай дарогі, як дарогі да Беларусі.

Навалач, якая брудней пенай валіцца на Бацькаўшчыну, схлыне. Тое, што робіцца ў дачыненні да беларускага народа, да яго гісторыка-культурнай спадчыны, да Сцяга і Герба дзяржавы, да агульнанародных багаццяў, да самой краіны і яе народа — гэта дзікунства, цемрашальства.

І яны думаюць, што прыйшоў іх час?! Марныя надзеі! А мы — цярпелі, і яшчэ нацерпімся. Гэта ненадоўга. Не такіх злыдняў бачыла наша шматпакутная Бацькаўшчына. І дзе яны цяпер? Усе — у паняверцы, у нябыце! А на сцягу краіны — такія, як Скарына, Каліноўскі, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі...

Давайце набяром у грудзі паветра і ўздыхнем глыбей. Давайце з годнасцю і з гонарам вымовім родныя словы — Маці, Беларусь, Радзіма. Каб гэтыя словы жылі вечна. Давайце вышэй падымем нацыянальна-дзяржаўны, родны і адзіны Сцяг і наш гістарычны, сцверджаны ў стагоддзях Герб. Гэтым мы паслужым Радзіме. Давайце задумаемся над лёсам будучых выбараў і вынікамі новых магчымых «прэзідэнцкіх» рэферэндумаў па ліквідацыі Беларускай дзяржавы. Трэба сказаць сваё важкае слова пратэсту. Трэба схамянуцца — і абараніць Бацькаўшчыну. Гэта святы абавязак кожнага, каму Беларусь — маці.

**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны.**

# Суседзі разумнейшыя

Раніцай 6 чэрвеня Беларускае радыё паведаміла, што ўжо гатовы бланкі новых пашпартоў. Частка іх, як ведаем, была выдадзена: пры гэтым пашпарт за нумарам адзін, памятаецца, быў уручаны першаму Прэзідэнту РБ А.Р.Лукашэнку. Радыё таксама паведаміла, што ў сувязі са зменай сімволікі гэтыя бланкі не затрабаваныя і што калі будзе вырашана памяняць іх, то давядзецца на гэта затраціць дзесяткі мільёнаў долараў.

Узнікае пытанне: хто павінен цяпер плаціць за змену сімволікі ў шматпакутнай Беларусі, дзе няма грошай дзеля лячэння хворых дзяцей, дзе да гэтага часу не выкананыя абавязацельствы па запуску прадпрыемстваў, дзе сістэматычна затрымліваецца выплата заработнай платы і г.д.?

Будучы кандыдатам, затым Прэзідэнтам, Аляксандр Рыгоравіч неаднаразова казаў, што людзі павінны ведаць, хто за што адказвае. Гэта добра (як, напрыклад, ведаем, што вельмі актыўна дзейнічаў у замене сцягоў на галоўных будынках Менска чыноўнік І.Ціцянкоў).

Расія ўзяла расійскую («царскую») сімволіку, Украіна абрала ўкраінскую («пятлюраўскую») сімволіку. Хацелася б ведаць, якія эканамічныя страты панясе Беларусь пры змене сімволікі (не гаворачы ўжо пра палітычныя і маральныя страты)?

Упэўнены, што адным з разумных рашэнняў з'яўляецца выдача жыхарам Беларусі ўжо аддрукаваных бланкаў пашпартоў з беларускай сімволікай.

**З павагай Б.І.БРАНАВІЦКІ, удзельнік вайны, прафесар Беларускага інстытута культуры.**

# В Е Р У Е М

## Вера і сумненні

Няшмат засталося ў нашым грамадстве праўдзівых атэістаў-багаборцаў. Наадварот — большасць з гонарам кажа пра сябе: «Я — вернік». А між тым — чым больш чалавек абазнаны, адукаваны, чым больш знаёмы ён з рознымі філасофскімі і метафізічнымі плынямі, тым цяжэй яму сапраўды ўвераваць. Многім здаецца ў глыбіні іх сэрца, што вера — гэта ўсё-ткі недзе «супраціў розуму», што навука і вера ў «Вышэйшую сілу» рэчы нейкім чынам не сумяшчальныя... Канешне, як хрысціяне, мы **веруем**, што чалавека стварыў Бог... Але ж мы і **ведаем**, згодна вучэння Дарвіна, што чалавек — ад малпы... Праўда, сам Дарвін быў хрысціянінам, вернікам, ніколі не адмаўляў Творцы свету... Вось і супрацьпастаўляюцца ў нас вера і розум. І спараджаюць сумненні. На шчасце, ніводзін чалавек не з'яўляецца выключэннем са сваімі, толькі яму ўласцівымі, праблемамі. Таму, хто стукаецца, адчыняць... Існуе дастатковая колькасць кампетэнтных даследаванняў, прысвечаных суадносінам веры і розуму, прыродзе нявер'я і сумнення. Мы выхаваныя на прынцыпе, што ўсё можна спасцігнуць розумам, і свой рацыяналізм прыўносім у рэлігію. Страшымся таемстваў, як забабонаў. Тым больш, што да нашай паслугі шмат містычнай літаратуры, у якой тлумачыцца якраз-такі «ўсё», што лічыцца «афіцыйным» хрысціянствам неспасцігальным. Мы шукаем у Бібліі сімволіку, падобна таму, як разенкрэйцэры бачылі ў «Найвышэйшай песні Саламона» зашыфраванае апісанне працэсу атрымання золата з дапамогай філасофскага каменя. Іона, праглынуты кітом, Чэрмнае мора, якое разышлося перад габрэямі, хлябы, тысячакратна павялічаныя, вада, ператвораная ў віно... Няўжо мы, інтэлектуальныя людзі, мусім прымаць гэта «проста», як вясковая бабулька? Супраціўляецца наш розум, наша «гардыня». А між тым існуюць апытанні знакамітых навукоўцаў наконт іх адносінаў да рэлігіі. Высветлілася, што са ста апытаных толькі дзесяць працэнтаў назвалі сябе няверуючымі (апытанне праводзілася ў Англіі, у нас гэты працэнт, мусібыць, большы). Веруючымі былі Ньютан, Лейбніц, Кант. Апошнія словы Вальтэра былі пра тое, што ён паміраe веруючым. Веруючымі былі многія вялікія пісьменнікі, мастакі, музыкі... Аднаго з пісьменнікаў папыталіся:

— Як гэта вы, Н.Н., такі разумны — і ў той жа час веруеце?

Пісьменнік адказаў:

— Ну, ведаеце, ёсць шмат людзей куды разумнейшых, і, аднак, веруюць. Лепш ужо пра розум наш прамаўчаць!

Такім чынам, вучонасць сама па сабе не вядзе да нявер'я. Прычына — глыбей, у душы чалавечай, у сэрцы...

На такія разважанні навяла мяне кніга Паўночна-Амерыканскага мітрапаліта Веніяміна «Аб веры, нявер'і і сумненні». Напісаная «проста», даходліва, яна напісаная менавіта для людзей, што лічаць сябе інтэлектуаламі, і падымае шмат пытанняў агульнахрысціянскіх, ці лепш сказаць, агульначалавечых. Як прыйсці да веры? Мітрапаліт вызначыў для сябе некалькі этапаў духоўнага шляху: дзіцячая вера — успрыняцце пастулатаў рэлігіі «проста», непасрэдна; паверка рэлігійных пастулатаў розумам; «развянчанне» розуму — прызнанне неспасцігальнага ў свеце і г.д. Першы шлях веры — калі яе атрымліваюць «пераданнем», ад бацькоў, настаўнікаў. Другі шлях — Адкрыццё праз Святое Пісанне і Святое Паданне. Наступны этап на духоўным няпростым шляху — вярнуцца да першаснай, «дзіцячай» веры, абароненай цяпер розумам. **Разумная вера** — аказваецца, і такое магчыма...

Аднак — ёсць і трэці этап веры. Хаця з боку розуму перашкод для веры ўжо няма, а ёсць вера па перакананні, няма задаволенасці. Бо розум і прызнанне яго бездапаможнасці не дае і не можа даць «багацця веры, рэальнага адчування звышнатуральнага быцця». Шчыры вернік, каб сцвердзіцца ў веры, прагне Адкрыцця, сапраўдных праяў таго звышбыцця, у якое веруе.. І страшыцца гэтай сваёй прагі, і баіцца, што робіць грэх, спакушаючы Бога... Можна параўнаць гэтую частку духоўнага шляху з прынцыпам Фамы Няверуючага: «Калі не памацаю, не паверу». «Калі ёсць Бог і калі мы маем спосабы спазнання Яго, дык не можа Ён застацца схаваным...» І такія адкрыцці ёсць — праз сам свет — неверагодныя дзівосы яго і пекнасць, праз голас сэрца — духоўнае адкрыццё. Праз спакой і радасць, што дае вера, і пакуту, тугу, што дае сумненне, нявер'е. І — адрозненне хрысціянства ад іншых рэлігій — праз благадаць Божую, пячатку, што ляжыць на сапраўдных верніках; праз «бачанне» звышнатуральнага свету, пацверджанае многімі фактамі...

Але — пасля ўсяго — застаецца яшчэ дадзеная чалавеку Богам свабода волі. Чалавек вольны сам выбіраць, верыць яму ці не. У гэтым мы бачым веліч Госпада нашага — ён не прымушае нас да веры. Цудоўным чынам спалучаюцца воля Боская і воля чалавечая...

Хто стукае, таму адчыніцца... На заканчэнне гэтых разваг-пераказу (бо ўсе нашы развагі, у канчатковым варыянце, не больш чым пераказ думак тых, хто жыў да нас) хочацца прывесці яшчэ адну цытату — пераказ з кнігі «Аб веры, нявер'і і сумненні»: няверуючы сам вінаваты ў сваім нявер'і...

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.**

## *Што для мяне малітва?*

Малітва была для мяне самым нудным, бессэнсоўным заняткам, а да таго ж дзейнасцю, якую я не разумела. Гэтак жа было і з маім паняццем любові да Бога. Я лічыла гэта вынікам псіхічнага дэфекту. От, не хапае нейкай клёпкі. Не ўмантавалі! Пэўны час спрабавала маліцца ад пачуцця абавязку і з нейкай неакрэсленай надзеяй і тугі. Але зноў бунтавалася, адчувала нежаданне і амаль нянавісць да ўсякай набожнасці, да сямейных малітваў.

Хадзіла маліцца ў бажніцу, але з таго часу ў памяці засталася толькі страшная нудота. Вакол поўна людзей, святар гаворыць казанне, якога я нават не слухала: доўгі час была перакананая, што казанні таксама гавораць на лаціне.

Памятаю, што ў дзяцінстве, калі прачыналася, адчувала заўсёды нейкую радасць чакання на нешта незвычайнае, што мела таго дня мяне напаткаць. Але потым усё так хутка патанала ў нудзе, у голадзе, у змучанасці, у незразумеласці «высокіх» слоў, што ўяўляліся мне неразумнымі і няшчырымі. А я не любіла высокіх слоў. Пэўныя зрухі адбыліся, калі я была цяжарная першай дачкой. Дачка падрастала, але была далёкай ад ідэалаў дзіцяці-анёла. Я тады была яшчэ такой наіўнай і выказвала прэтэнзіі Богу. Пасля ўжо перастала выказваць гэтыя прэтэнзіі, бо знала, што я адна. Дзесяць гадоў штодня я пераконвала сябе, што я адна. Дзесяць гадоў тлумачыла сабе, што толькі я сама магу ўсё вырашаць, вызначаць свае маральныя нормы. Дарэчы, ад прыроды я даволі пачцівы чалавек, таму ўсё ішло добра.

Але чатыры гады таму ўсё нечакана змянілася. Я была зноў цяжарная — гэта надта складаная справа, каб пра гэта расказваць. І мне трэба было нешта вырашыць, і тады атрымалася так, што я не магла вырашыць, я не мела сілы забраць у сябе права... Тады я перажыла хіба самую страшную ноч у сваім жыцці. А раніцой, пад лівнем я пабегла ў бажніцу.

Якраз была нядзеля. Імша ўжо пачалася, і я стала ў дзвярах — зусім абяссілела ад безнадзейнага змагання з сабой... «Чаго ад мяне хочаш, чаго ад мяне вымагаеш», — сказала я са злосцю, ці не ўпершыню як камусьці, хто існуе. І раптам усё зразумела: адчула выразны адказ. Ён турбаваўся пра маё шчасце. І тады я зразумела, што такое шчасце, што такое крыж. Не, не які-небудзь там крыжык, што носяць на шыі. Крыж у асноўным значэнні — тая, спрадвеку, шыбеніца. Не знаю, як гэта атрымалася, але ўсё гэта працягвалася лічаныя хвіліны. Я знайшла тую згубленую клёпку.

Не ведаю, як гэта растлумачыць, які дзейнічае механізм, што чыняць некаторыя людскія чыны малітвай? Я ж зразумела, што Ён адказвае, і я пачала проста слухаць. Гэта было надзвычайна. Дастаткова было з'явіцца з якім-небудзь сваім клопатам і рашыцца сказаць нешта накшталт «павярну з кожнай дарогі, калі мая дарога — не твая дарога».

Люблю свае размовы з Богам. Чакаю іх, стараюся не прапусціць. Пасля таго здарэння ў касцёле я ўвесь час адчуваю патрэбу выказваць падзяку і яшчэ нешта, што называецца хвалой і што да нядаўняга часу я лічыла высокімі словамі, якія нічога не значаць. Ніколі нічога не прашу. Гэта нібы нядобра, бо ўяўляецца, што ў мяне няма даверу. Нават спрабавала прасіць — не ўмею. Ведаю, што б ні здарылася, будзе добра.

Калі і дзе я малюся? Ці ў бажніцы, ці ў трамваі? Хутчэй у трамваі. І ў асноўным, і ў пераносным сэнсе, калі трамваем лічыць наша крыклівае, вечна раз'юшанае жыццё. Маё жыццё, мабыць, больш трамвайнае, чым у іншых: купка дзяцей, даволі складаная работа... Можа таму ні на хвіліну не магу адпусціць руку, якой я трымаюся.

Здаецца мне, што ўвесь час шукаю, што гэта недзе блізка, магчыма, нават у мне самой — гэта непараможнае дабро. Нягледзячы ні на што, калі нават нешта раблю дрэннае. Прыйшло мне нядаўна ў галаву, калі паўтарала словы малітвы: найцяжэй убачыць Бога ў сабе самім, а Ён жа там найбольш рэальны.

Ага, мая першая дачка вырасла і стала цудоўнай дзяўчынай, вельмі цікавым і вялікім чалавекам. Але гэта нічога не значыць. А можа значыць?

**Жанчына, 40 гадоў, адукацыя вышэйшая, жыве ў вялікім горадзе. Перадрук з кнігі «Безымянныя гавораць пра малітву» (скарочана).**

*Уражанні* *Уражанні*

***Барыс РОДЗІЧ***

## Апошняе Пісанне Ведзьмака (аб цудах і фокусах) з Гэтага Свету

Чалавек сказаў: «Зараз Беларусь — цэнтр славянскага свету, з якога можа пачацца аднаўленне славянскай цывілізацыі». Ён сказаў, што Бог нам Суддзя! І чалавек сказаў нарэшце праўду. І я шчыра паверыў Яму!

Я пацверджу, нават на Божым Судзе, што Ён сказаў праўду. Бо толькі я ведаю, як судзіць Бог, як карае Бог, як сапраўды баліць душа, як чалавек сапраўды гатовы ахвяраваць целам сваім, каб вечна жыў яго дух, каб вечна жыла яго Мова, яго Слова Божае. Лукаваму, чалавеку, у якога ўсяліўся Бес, не здалося, што ў яго «паехала крыша». А гэта так? Я магу яго вылечыць, калі ён лічыць, што «нешта не так». Так. Так. Так...: Лукавы чалавек, прыйдзі да мяне. Я буду гутарыць з Табой пры сведках. Я, чалавек, скажу другому чалавеку, скажу аўтарытэтным Суддзям, скажу праўду, ці «хворы» прыйшоў да мяне чалавек, ці хворая ў яго душа, ці не замуціўся ў яго розум. Прыйшоўшы да мяне, чалавек сам назаве сваё сапраўднае імя. І пачнецца Суд.

Вялікі габрэй Аўраам (на ідыш — Абрам) Лінкальн сказаў, што нельга ашукваць доўга ўвесь народ. Знойдзецца хоць адзін, які скажа другім людзям праўду. «Напёрстачнікі» на базары, гуляючы з людзьмі, ашукваюць іх. Лоўкія людзі робяць фокусы. Лукавыя людзі робяць фокусы са словамі. Яны «гуляюць» словамі. Але гэтым гуляць не варта. Гэта грэх, большы за базарную ману. Слова лечыць, але і калечыць. Слова дае ўладу, але і адбірае яе. Трэба шанаваць, цаніць слова любога чалавека, нават блажэннага, бо блажэнны не маніць. Ёсць тэксты, ёсць кнігі, напісаныя па «наушчэнню» Бога. Я папрасіў чалавека Іва: «Дапамажы пакараць лукавага чалавека». Чалавек адказаў: «Бог яго пакарае». І я пайшоў, пайшоў чакаць. Пайшоў думаць: «Што такое Бог, што такое Дух Чалавека, Дух Нацыі, Святы Дух». Пайшоў чакаць, пакуль знойдзецца чалавек, які верыць у Цуд, верыць, што Бог зможа пакараць лукавага чалавека. Пайшоў маліцца: «Пакарай Яго, Бог». Так, Слова можа рабіць Цуд, калі вераць людзі ў цуд, калі вераць Богу. Людзі, якія «гуляюць» словамі, манячы людзям, абавязкова стануць духоўна хворымі людзьмі. Такіх робяць «нармальнымі» псіхіятры-ўрачы, духоўнікі-папы. І лечаць Богам вызначаныя людзі, яны Словамі робяць Цуды.

Гэты ТЭКСТ пісаў па «наушчэнню» Бога чалавек, у якога «хворая душа». У якога яна баліць за абразу яго Мовы, яго чалавечай Годнасці.

Ну, людцы мілыя, ну, не магу я больш маўчаць! Я прыніжаны, мяне б'юць дубінкамі, застрашваючы, каб я маўчаў, моўчкі чакаў Свайго духоўнага СКОНУ. Свайго СС. Няўжо толькі ў мяне аднаго засталася Душа, якая баліць за Беларускі Народ?

Дзе вы, людзі добрыя, дзе ваша слова, дзе ваша мова, чаму маўчыце? Чаму ў мяне ў аднаго забалела Душа ад гэтага ўсяго? Ча-Му-у?

Я Не Магу маўчаць, «як усе»!!!

Чалавек чакае споведзі лукавага чалавека, чакае прабачэння за абразу Мовы, Годнасці яго як простага, але Чалавека!

Калі не будзе прабачэння, то будзе Суд Божы!

Божа, пакарай Мяне. Ці Яго. Сатвары Свой суд!

Божа! Адымі Розум! Прашу Цябе!

Божа! Няма моцы цярпець! Хай будзе, як Ты рассудзіш!

Божа! Сатвары Цуд! Пачуй Мяне!

Божа! Зрабі, каб Здзейснілася сказанае ў пачатку Маёй Малітвы!

Госпадзі, прашу Цябе! Мне цяжка жыць, Мяне не любяць улады!

Госпадзі! Зрабі Цуд! Прашу Цябе!

АМІН!

*Нацыянальнае Адраджэнне і спорт*

# Смольня — Вязынка — Менск



*«...Мой родны кут!*
*Як ты мне мілы.*
*Забыць цябе*
*Не маю сілы!»*
**Якуб Колас.**

Шануюць беларусы памяць сваіх песняроў Якуба Коласа ды Янкі Купалы, руплівa і дбайна ахоўваюць навакольную прыроду, якая ў комплексе з пісьменніцкімі сядзібамі ў Акінчыцах, Альбуці, Смольні, Вязынцы і Менску мае вялікае выхаваўчае значэнне ў маштабах дзяржавы, з'яўляецца нацыянальным здабыткам.

Роднаму пяснярскаму куту, сінявокай Беларусі, яе працавітаму, таленавітаму гаротнаму народу прысвяцілі свой ужо 4-ы прабег пад назвай «Родны кут» аматары бегу і дыятлону (бег плюс ровар) нашай рэспублікі, які адбыўся на пачатку чэрвеня. Маршрут, разлічаны на тры дні адолення, пралёг якраз па мясцінах, якімі некалі хадзілі Якуб Колас ды Янка Купала: «Стоўбцы — Івянец — Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач» — Вязынка — Заслаўе — Менск». Агульная яго працягласць — 157 км. Асобна ад звышмарафонцаў, якія павінны былі вызначыць пераможцаў і прызёраў на ўсёй дыстанцыі, праводзіліся спаборніцтвы і на прамежку ў 100 км. Была свая дыстанцыя ў дыятланістаў. Каму ж гэтыя ўмовы былі не пад сілу, той мог прыняць удзел у адным або некалькіх асобных этапах па выбару, а ў вольны час дапамагчы карміць і паіць спартсменаў на трасе.

Спаборніцтва звышмарафонцаў, між іншым, мела статус адкрытага чэмпіянату Беларусі. Яго ладзіла Федэрацыя лёгкай атлетыкі рэспублікі. Гераічна адолеўшы страшэнную спёку, дарожны пыл, вялікія кавалкі гравійных дарог, расплаўлены асфальт, у абсалютным першынстве перамог майстар спорту Ігар Рэмішэўскі. Другім быў Валеры Жарскі, трэцім — Алег Быкаў. Сярод жанчын на дыстанцыі 100 км першай фінішавала Людміла Агеева, сярод мужчын — Раман Асаевіч, а сярод ветэранаў — Антон Івашкевіч. Былі свае пераможцы і прызёры ў розных узроставых групах на ўсіх дыстанцыях.

Спорт спортам, але не толькі дзеля гэтага пераадольвалі доўгія кіламетры трасы звышмарафонцы і простыя аматары бегу. Удзельнікі спаборніцтваў перад стартам наведалі магілкі Якуба Коласа і Янкі Купалы, пабылі ў музеі Я.Коласа ў Менску. А прыехаўшы ў Стоўбцы, адразу ж завіталі ў Смольню, у філіял літаратурнага музея Я.Коласа, дзе нас чакала старая знаёмая па ранейшым прабегу, сама Соф'я Восіпаўна Міцкевіч, пляменніца вялікага песняра. Яна правяла спартсменаў у сядзібу, дзе жыла сям'я лесніка Міхала. Потым усе наведалі ўзведзены ўжо ў наш час філіял літаратурнага музея. І так было на працягу ўсёй трасы. Хата, дзе нарадзіўся і жыў Янка Купала ў Вязынцы, запаведныя мясціны старажытнага Заслаўя, парк і помнік Янкі Купалы ў Менску (там адбылося ўрачыстае ўзнагароджванне пераможцаў і ўдзельнікаў спаборніцтваў) надоўга застануцца ў памяці звышмарафонцаў, аматараў бегу, дыятланістаў. Карацей, душы спартсменаў адчулі любоў да Бацькаўшчыны, роднай культуры і мовы, да гісторыі свайго народа.

Не пашкодзіла б, каб у пяты юбілейны прабег, на гэту неардынарную з'яву ў спартыўным жыцці рэспублікі звярнулі сваю ўвагу Беларускі фонд культуры, Саюз пісьменнікаў, ТБМ імя Ф.Скарыны, Бацькоўскі камітэт беларускіх класаў і школ г. Менска. Хай бы іх прадстаўнікі далучыліся да нашай трасы разам з дабрачыннымі і камерцыйнымі арганізацыямі... Хай бы прабег «Родны кут» стаў сапраўды нацыянальным і масавым!..

**Станіслаў СІМАНЬКОЎ,**
**удзельнік прабегу.**

**НА ЗДЫМКАХ У.** *Літоміна і С.Сіманькова*: адзін з мілых сэрцу беларусаў куточкаў у Смольні; удзельнікі прабегу пасля фінішу ў Менску.



# *Кола сям'і*

## Пачуццё ўласнай годнасці

*(Заканчэнне. Пачатак у № 25)*

Дзе ж павінна выхоўвацца пачуццё ўласнай годнасці? Яго выхоўваюць у сям'і. А можа ў школе? Безумоўна, што патрэбу нечага дамагацца трэба выхоўваць у чалавека агульнымі намаганнямі, так як выхоўваецца пачуццё ладу і эстэтыкі, уменне адчуваць мастацтва, музыку. Пачуццё ўласнай годнасці, яго абуджэнне і выхаванне трэба пачынаць ад малых спраў. «О, ты ў мяне такі здольны», — мусім гаварыць мы з выразным здзіўленнем нашаму дзіцяці, якому ўдалося скласці разабраную цацку. У малечы павінна закараніцца перакананне, што варта рабіць яшчэ нешта апроч дапамогі маме на кухні. Нават ідучы на прагулку, мы з кожным разам павінны выбіраць больш доўгую і цяжэйшую трасу, чым учора, заахвочваючы дзяцей адолець яе без скаргаў на стомленасць. Так паступова ў дзіцяці складваецца перакананне: каб нечага дамагчыся, трэба адолець перашкоды. І так паступова дамаганне поспеху будзе станавіцца для дзіцяці натуральнай патрэбай, якую варта задавальняць у межах здаровага рассудку, але ні ў якім выпадку любой цаной.

Ні ў якім выпадку нельга, каб бацькі дамагаліся рэалізацыі сваіх амбіцый праз дзяцей. Асабліва шкодна, калі бацькі прымушаюць дзяцей пасля школы ляцець на трэніроўкі ці на ўрокі музыкі, а пасля гэтага яшчэ да настаўніка-рэпетытара англійскай мовы, не ведаючы, да чаго дзіця мае схільнасці. А яму толькі паўтараюць: «Ты павінен мець амбіцыю. Толькі так нечага дасягнеш у жыцці». Калі дзеці здольныя, то яны самі абароняць сябе ад бацькоўскіх завышаных патрабаванняў. Горш у тым выпадку, калі дзіця не мае пэўных здольнасцей, а можа, нават, і ахвоты. А бацькі штодня ўкладваюць яму ў галаву пра неабходнасць амбіцый. З такога дзіцяці можа вырасці толькі кар'ерыст. Ён захоча дабіцца свайго любой цаной. Калі ж што не ўдаецца, то такі чалавек пачынае шукаць прычыну ў людской непрыхільнасці ці ў абставінах, але ніколі ў самім сабе. Не выхаванае пачуццё ўласнай годнасці — і чалавек хапаецца за чужое, чужыя дасягненні і талент, выкарыстоўвае сяброў, каб дамагчыся свайго. Але, атрымаўшы патрэбнае, пакідае іх і выглядвае новых, патрэбных.

Часам бацькі, стараючыся неяк уздзейнічаць на дзіця, каб дамагчыся свайго, замест выхавання годнасці выхоўваюць у дзіцяці комплексы. Калі хлопчыку, які нясе ваду, ды спаткнуўшыся разальe яе, сказаць: «Не трэба было браць поўнага вядра», або нагадаць, што трэба быць уважным: Але часцей за ўсё ў такіх выпадках бацькі пачынаюць, што называецца, чытаць мараль. Дзіця толькі і чуе: «Ты ніколі нічога не зробіш, як трэба», «Што табе ні дай, ты ўсё сапсуеш» і г.д. Дзяўчынкам у такіх выпадках яшчэ дадаюць, што яны неўклюдныя, а таму ні адзін хлопец на іх нават і не паглядзіць. Так паступова дзіцяці ўбіваецца ў галаву, што яно ні на што не годнае, нікуды не вартае. А гэта адмоўна адбіваецца на выхаванні асобы, вынікам чаго становіцца комплекс! З комплексамі, якія малады чалавек набывае ад такога выхавання, пазней цяжка жыць. І калі ў будучым жыцці гэткае брыдкае качанё сваёй працавітасцю даможацца поспеху, пачуццё не выхаванай з дзяцінства ўласнай годнасці, веру ў свае магчымасці можа падтрымаць толькі пачуццё ўласнай годнасці. «Я не такі, як пра мяне думаюць мае бацькі, я здолею дамагчыся свайго», — і такім можа быць супрацiўленне маладога чалавека. Такому меркаванню звычайна спадарожнічае чалавечнасць, жаданне дапамагчы блізкім, родным.

Вялікую ролю ў выхаванні годнага чалавека, як мяркуюць псіхолагі, маюць звычайныя казкі, тыя, што чыталі ў дзяцінстве. Менавіта казачныя героі даюць добры ўзор паводзін, узор змагання дабра са злом.

**А.Б.**

*Здароўе*

*Тацяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Астэахандроз трэба запабегчы з дзяцінства

Як вядома, хрыбетнік немаўлятак складаецца пераважна з храсткоў. Таму ён рухлівы і няўстойлівы. І не трэба прым ушаць дзетак станавіцца на ногі заўчасна, раней 10—11 месяцаў. Немаўля раяць насіць на спіне ў спецыяльным прыстасаванні, у якім дзіцятка «вісіць» з шырока разведзенымі ножкамі. У такім стане спінныя мышцы дзіцяці расслаблены, рухі галоўкі не ўздзейнічаюць на хрыбетнік, сцісканне хрыбетніка непазбежнае, калі дзіцятка лежачы стараецца падняць галаву або тулава.

Звычайна бацькі не звяртаюць увагі на якасць дзіцячага абутку і купляюць боцікі, туфлі, сандалі, у якіх не гнецца падэшва і няма абцасу. Калі хадзіць у такім абутку, то можа дэфармавацца ступня — стане пляскатай (па-расійску — плоскостопие). Але ж менавіта пругкая, нармальна развітая ступня «амартызуе» — амаль на 80 працэнтаў змякчае ўдар нагі аб зямлю пры хадзьбе. Калі ж ступні не выконваюць сваю функцыю, то «ўдары» перадаюцца на хрыбетнік, такое сталае ўздзеянне спрыяе ўзнікненню артрозаў.

Дзеля папярэджання дэфармацыі ступні дазваляйце дзецям хадзіць улетку босымі па роснай траве, па пяску, па шыгаллі ў лесе.

Ужо згадвалася, што падчас доўгатэрміновага сядзення міжпазванковыя дыскі моцна сціскаюцца. Таму неабходна перарабіць стол, за якім дзеці робяць урокі, так, каб можна было чытаць ці пісаць і седзячы і стоячы — так удасца пазбегчы працяглых уздзеянняў на адныя і тыя ж мышцы, якія, паўтараем, лёгка стамляюцца, бо не атрымліваюць адпаведнага сілкавання. Да таго ж, «слабыя» мышцы не могуць утрымаць адпаведны стан хрыбетніка. І, як вынік, адначасна з дэфармаваннем постаці адбываецца парушэнне работы нутраных органаў, пагаршаючы і без таго недасканалае развіццё дзіцяці.

Якое ж прапануецца выйсце? Дзеля здароўя дзяцей неабходна наладзіць у кватэры «куток», дзе варта паставіць «шведскую сценку», павесіць гуж (тоўстую вяроўку), па якім дзеці вельмі любяць лазіць і гойдацца, прыладзіць гімнастычныя кольцы, турнік. Выбіраючы гульні для дзяцей, уважайце, каб яны абавязкова мусілі поўзаць на жываце «па-пластунску», хадзіць на чацвярэньках, каб маглі павісець уніз галавой з вольна апушчанымі ўніз рукамі.

Не забывайце, што надзвычай шкодна дзецям з'язджаць з металічнай горкі, асабліва, калі такі з'езд заканчваецца ўдарам нагамі ў зямлю. Чым больш рэзкі пераход, тым большая раптоўная нагрузка на хрыбетнік. Дзеці самі інстынктыўна адчуваюць гэта і таму замест каб на санках, асабліва на «санках-талерках», любяць катацца з гары на нагах або лежачы на спіне, на жываце, чаго ім бацькі часам не дазваляюць, бо могуць пашкодзіць ці забрудзіць вопратку. Дарэчы, апранаць дзяцей трэба ў лёгкія і шырокія курткі, камбінезоны, каб яны маглі свабодна рухацца. Цяжкія ды цесныя паліто і футры «скоўваюць» цела і сціскаюць плечавыя і спінныя мышцы.

Скарыстайце летнюю пару, каб з дзецьмі і самім пахадзіць, пабегаць, паплаваць, асабліва жабіным стылем («брас»), які дасканала расслабляе спінныя мышцы.

Культура мовы

# На памылках вучацца

Працягваючы разгляд найбольш тыповых памылак прэсы, нельга не звярнуць увагу на некаторыя асобныя правілы. Напрыклад, нярэдка выклікае пытанне правапіс галосных у складаных словах. Разгледзім прыклад.

> «14.40 Ура! Камедыя. «Скандал у нашым Клошгорадзе». Мастацкі фільм».
>
> *«Беларускае радыё і тэлебачанне».*

Прыведзены прыклад цікавы тым, *што маем справу са словам-наватворам* (Клошгорад). Правапіс яго не праверыш па слоўніку. Тут трэба ведаць правілы напісання слоў, утвораных па аналагічнай мадэлі. Відавочна, што слова адносіцца да разнавіднасці складаных назоўнікаў — геаграфічных назваў з другой часткай — горад (-град, -горск; Кітайгорад, Слаўгарад, Салігорск). А ў складаных і складанаскарочаных словах напісанне галосных літар о—а, е, ё—я залежыць, як і ў простых, ад месца націску. Складаныя словы могуць мець адзін або два (і больш) націскі. Адзін націск маюць словы, у якіх ён падае на першы склад другой асновы. У гэтых словах напісанне галосных падпарадкуецца аднаму націску. Калі ж у другой аснове складанага слова націск падае не на першы склад, то першая частка складанага слова мае свой, дадатковы націск, і пад націскам пішацца о (ё), не пад націскам — а, е, я. (Беларуская мова. «Вышэйшая школа», 1992). У прыведзеным намі прыкладзе з газетнага тэксту — «Клошгорад» — націск у другой частцы гэтага складанага слова прыпадае на першы склад, а значыць, у слове маецца толькі адзін націск. Адпаведна напісанне павінна быць наступным — «Клашго́рад».

Такім чынам, выяўляем чарговую памылку — наданне складанаму слову «лішняга» націску і, як вынік, няправільная арфаграфія — «о» замест ненаціскнога «а».

> «Аўтар гэтых радкоў Расул Гамзатаў не толькі таленавіты паэт, але і прадстаўнік народа, у якога вінапіццё даўно стала састаўной часткай нацыянальнай культуры».
>
> *«Звязда»*.

*У вышэйпрыведзенай цытаце нас* цікавіць слова «вінопіццё». Яму таксама нададзены два націскі — на літары «о» і «ё». Сапраўды, у другой частцы гэтага складанага слова націск прыпадае не на першы склад, таму лагічнае з'яўленне пабочнага націску ў першай частцы слова. Але ж гэты пабочны націск надалі не аснове слова, а злучальнай галоснай між дзвюма асновамі. Такім чынам, калі ўлічыць, што і літара «і» — адзіная галосная першай асновы — мусіць быць пад націскам, у слове «вінопіццё» аказваецца ажно тры націскі — на чатыры склады! А напісанне слова павінна было быць наступным — «вінапіццё».

Хаця, трэба сказаць, падводзячы вынік, што перакласці расійскае «винопитие» належала б словам «вінапіццё» — з адным-аднюсенькім націскам на першым слове другой асновы, з акрэсленым сэнсавым напаўненнем дзеяння — у адрозненне ад прадметнага адцення спалучэння «віно» плюс «піццё». Няхай чытач сам падлічыць, колькі памылак дапушчана ў гэтым няшчасным слове з чатырох складоў і адпаведна дзевяці літар.

*(Працяг будзе.)*

**Л.ШНІП.**

Беларуская лацінка

# *Абапірацца на алфавіт эсперанта*

Хацеў бы далучыцца да цікавай дыскусіі пра развіццё беларускай лацінкі, якая разгарнулася на старонках «Нашага слова», і выказаць пры гэтым наступныя меркаванні:

1. Беларуская лацінка — гэта не «панацэя, але сродак уратавання нашай мовы і нацыі» (Я.Стапановіч, «НС», № 10, 1995).

2. Сучасная беларуская пісьменнасць павінна абапірацца як на кірылічны, так і на лацінскі алфавіты. Канкрэтныя прапорцыі ў гэтай важнай справе трэба вызначыць не адміністрацыйна-загадным чынам, а паводле вольнага выбару кожнага карыстальніка беларускай мовай.

3. Існуюць розныя варыянты беларускай лацінкі. Чаму б не прыняць за беларускую лацінку алфавіт міжнароднай мовы эсперанта, які ўтрымлівае адмысловыя літары і для абазначэння фарынгальнага *г*, і нескладовага *ў*, і афрыкаты *дж*? Такім чынам маем embarras de richesses і задачу адназначнага выбару аднаго з варыянтаў беларускай лацінкі.

4. Усе розныя варыянты беларускай лацінкі можна згрупаваць паводле двух прынцыпаў. Першы — калі беларуская лацінка не ўтрымвае ніякіх адмысловых літар і дыякрытычных (надрадковых) знакаў, г.зн. нічога, апроч таго, што ўваходзіць у алфавіт арыгінальнае лацінскае мовы. Такі падыход рэалізуецца, напрыклад, у алфавіце італьянскае мовы. Другі — гэта наяўнасць адмысловых літар і дыякрытык (алфавіты балтаў, заходніх славенаў, харватаў, эсперанта і г.д.). На маю думку, перавагу трэба аддаць менавіта «італьянскаму» шляху развіцця беларускай лацінкі, бо гэта значна спрашчае і ўспрыманне, і друкаванне, і перадачу на міжнародных каналах беларускіх тэкстаў. Канкрэтна я прапаную наступны «бяздыякрытычны» варыянт:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Aa | а | Hh | фарынгальны «г» | | | | |
| Bb | б | | | Oo | о | Ww | ў |
| Cc | ц | Ii | і | Pp | п | Vv | в |
| Cz cz | ч | Jj | й | Rr | р | Ch ch | х |
| Dd | д | Kk | к | Ss | с | Yy | ы |
| Ee | э | Ll | l | Sz sz | ш | Zz | з |
| Ff | ф | Mm | м | Tt | т | Rz rz | ж |
| Gg | г | Nn | н | Uu | у | | |

Пры гэтым мяккасць зычных гукаў *ц, л, н, дз, с, з* перад зычнымі абазначаецца «нямой» літарай *j*, напрыклад, дзядзька —dziadzjka, штосьці — sztosjci. Аналагічна і на канцы слоў, напрыклад, верасень — vierasienj. Так выкарыстоўваецца літара *j* ў сербалужыцкай мове. Перад жа галоснымі *a, o, e, u,* а таксама перад спалучэннямі *ja, jo, je, ju,* г.зн. перад адпаведнікамі кірылічных літараў *я, ё, е, ю,* мяккасць *ц, л, н, дз, с, з* абазначае «нямая» літара *i*. Напрыклад, dzienj — дзень, brylijant — брыльянт, milijon — мільён. Замест адмысловых літараў вышэйазначаных лацінак *š, č, ž* маем дыграфы *sz, cz, rz* замест *й* — *w*. У адрозненне ад Я.Стапановіча замест *x* маем дыграф *ch*, а таксама не ўводзяцца адмысловыя літары для афрыкат *дз, дж*.

5. Naprykancy minulaha stahoddzia z metaj ukaranienjnia lacinskaha alfavita japoncy stvaryli «Chawrus Lacinskich Znakaw». Miarkuju, szto niejki taki ChLZ, chutczej za wsio w skladzie TBM, maje bycj i w nas na Bielarusi.

**Уладзімер ТУНЯК,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

ACADEMIA «NS»

Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

> *«Для гісторыі беларускай мовы «Повесть о Трыщане» ўяўляе выключную цікавасць. У гэтым помніку, самы жанр якога абумоўлівае незалежнасць ад архізуючых крыніц, свабоду і разнастайнасць стылістыкі, на агульным фоне царкоўнаславянскай пісьмовай традыцыі выразна праступаюць рысы жывога беларускага маўлення канца XVI ст.».*
>
> **Тамара Суднік, Масква.**

Уяўленне пра маштабы перакладаў на старажытную беларускую мову свецкай літаратуры таго часу будзе няпоўным, калі не згадаць пра рукапісны зборнік другой паловы XVI стагоддзя, названы Пазнанскім. Яго адшукаў, працуючы ў бібліятэцы графаў Рачынскіх у польскім горадзе Пазнані расійскі і ўкраінскі этнограф і гісторык мінулага стагоддзя Восіп Бадзянскі. У зборніку, акрамя «Летапісца Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», двух актаў, нататкаў пра Люблінскую унію 1569 года, радаводу Трызны сямейнага дыярыуша Уняхоўскіх, наваградскага шляхецкага роду, якому больш за 80 год належаў зборнік, змешчаны пераклады на старабеларускую мову трох рыцарскіх аповесцяў — «Повесть о Трыщане», «Повесть о Бове» і «История о Атыли, короли угорском». «Повесть о Трыщане» — адна з версій сярэдневяковай легенды аб трагічным каханні Трыстана, сына караля Леаніуа і ірландскай прынцэсы Ізольды (у аповесці Ижоты). Трыстан — сам дзіця няшчаснага кахання, адкуль атрымаў і сваё імя (яно азначае сумны, журботны). Рана страціўшы бацькоў, Трыстан тым не менш набывае неверагоднае спалучэнне дадатных якасцей: усебакова адукаваны чалавек, узорны рыцар, цудоўны паляўнічы, актор, чараўнік, паліглот, шахматыст, карабел, дойлід і разьбяр. «Повесть о Трыщане» (як відаць з загалоўка «Починается повесть о витезях с книг сэрбских») узыходзіць да сербскіх перакладаў легенды, якія ў сваю чаргу з'яўляюцца перакладамі з італьянскіх арыгіналаў. Пры перакладзе ў мову аповесці трапіла пэўная колькасць сербізмаў накшталт *белег* (знак), *неякъ* (слабы), *зафалено* (дзякавана), *крушки* (агароджа, бар'ер), *отокъ* (востраў), *прыличный* (падобны), *радити, нарадити* (зрабіць, прыгатаваць), *заболъ, прыболъ* (паімчаўся, прыімчаўся) і інш. З італьянскіх арыгіналаў праз пасрэдніцтва сербскіх перакладаў трапілі асобныя італьянскія словы: *прынчып* (правіцель), *морнар* (марак). Адлюстраванню асаблівасцей жывога беларускага маўлення (цвёрдасці шыпячых, пераходу *у* ў *в (ў)* садзейнічала, на думку пачынальніка беларускай філалогіі Яўхіма Карскага, тое, што гэтыя аповесці ўяўляюць сабой не дакладны пераклад, а хутчэй пераказ зместу арыгіналаў, перакладчыкі ж, на яго думку, — свецкія людзі, якія былі мала знаёмыя з царкоўнаславянскімі кнігамі. Уяўленне пра мову «Повести о Трыщане» можна атрымаць з наступнага ўрыўка: «А былъ у мачохи его сын, и она коли видела Трыщана так хорошого и борздо ростучи, боечыся, ижъ подъ ее сыном азметь панство, а сыну ее был один годъ, и вмыслившы рекла: Хотя ми умерети, а мушу Трыщана вморыт. И не могла иным, толко трутизною. Потомъ направила трутизну у фляшу серебреную в питье и поставила у головахъ в ложи, и одна панна носила королевича сына ее, ушла в ложницу, а дитя почало плакати. И видевшы девка вино у фляшы светло, взявшы напоила дитя, а кгды дитя напоила, того ж часу умерло».

«Повесть о Бове» або, як у арыгінале, «История о княжати Кгвидоне» таксама прысвечана праслаўленню кахання і рыцарскіх подзвігаў. Разам з «Повестью о Трыщане» яна ўзыходзіць да сербскіх арыгіналаў. Расійскі паэт Аляксандр Пушкін згадвае ў адным са сваіх вершаў, што «о подвигах Бовы» яму расказвала ў дзяцінстве няня Арына Радзівонаўна. Сказанае аб мове «Повести о Трыщане» справядліва і ў адносінах «Повести о Бове», што відаць з наступнага ўрыўка: «Рече Бово: Не дивно то, што конь мене позналъ: я есть Бово, которого ты жалееш. И она рекла: Бог ве ты лъжеш, а где-ж пакъ добрыи мечь, которымъ тя есми опасала? И Бово възнялъ гуню, вынялъ меч кгляренцыю, и она рекла: Соими клобук, укажы тот знак, то есми лечыла тебе ув отца своего, коли еси был с одное скалы спал. И Бово клобук знял, и она его познала. Аи Боже! Почали ся велми цаловати, и рече Друженна Бову: Хочеш ли у дворе зостати, чы-ли хочемо ехати?»

*(Працяг будзе.)*

*Мікалай КРЫЎКО*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАМАРГНУ́ЦЦА** (падмаргнуць адзін другому з якой-н. мэтай) *Жанчыны перамаргнуліся. Паціху гаворачы пра ўсё гэта, Барыс і Міхаіл пераморгваліся між сабой і таямніча ўсміхаліся* (Пятніцкі і Вінакураў). *І пераморгваецца* (у пераносным ужыванні) *гэтая сядзіба з хатамі і з дня на дзень чакае нейкага распараджэння* (Скрыган), **ПЕРАМІРГНУ́ЦЦА** *Навічкі пераміргнуліся — цётка Кацярына дыпламатычная...* (Навуменка), **ПЕРАМІГНУ́ЦЦА** разм. *Насільшчыкі перамігнуліся, штурхнулі адзін аднаго пад бок, выступілі наперад* (Маўр). — *Незак.:* **Перамо́ргвацца, пераміргвацца, пераміргвацца.**

**ПЕРАМУДРАВА́ЦЬ** разм. (занадта ўскладніць, заблытаць што-н.) *Перамудраваць у якой-н. справе,* **ПЕРАМУДРЫ́ЦЬ** разм. *Э, братка, ты тут перамудрыў крыху,* **ПЕРАМУДРАГЕ́ЛІЦЬ** разм., узмацняльнае.

1. **ПЕРАМЯНІ́ЦЦА** (пераважна пра чалавека: стаць іншым унутрана, у паводзінах) — *Не ведаю і я, — прамовіў Максім. — Я не думаў, што так у момант можа пераmяніцца чалавек* (Машара), **ЗМЯНІ́ЦЦА** *«Выслужваецца нягоднік — з агідай падумаў юнак, — як чалавек можа змяніцца!»* (Шчарбатаў). *[Гарусь] сказаў, зноў стрымліваючы сябе: — Я такі самы, я не змяніўся* (Чорны), **АДМЯНІ́ЦЦА** *Каб жа ён ажаніўся, Можа б ён адмяніўся* (з народнага), **ПЕРАЙНА́ЧЫЦЦА** *Шмат уцякло вады з таго часу... Перайначыліся людзі, але не ўсе...* (Дуброўскі), **ЗЫНА́ЧЫЦЦА** размоўнае *[Кастусь:] — Я намнога зыначыўся і сам гэта бачу. З гэтай прычыны мне здаецца, што жыццё маё дома пойдзе нейк інакш, як раней* (Чорны), **ПЕРАВЯРНУ́ЦЦА** разм. — *Працуй як след, пераварочвай жыццё, дык і сам перавернешся...* (Зарэцкі), **ПЕРАРАБІ́ЦЦА** разм. *Няўжо людзі так перарабіліся ў калгасе, што асабістая ўласнасць для іх не мае вялікага значэння, яны так жа дбаюць аб калектыве, як некалі дбалі аб сваіх інтарэсах?* (Колас). *Чалавеку цяжка перарабіцца адразу* (Чорны), **ПЕРАЎВАСО́БІЦЦА** *У адно імгненне Слава пераўвасобіўся. Імклівы, парывісты крок, рашучы позірк вачэй, грамавы голас* (Навуменка). *Гарбачэўскі ўмомант пераўвасобіўся, загаварыў аб лясных мурашках, іх карысці* (Гурскі). — *Незаконачанае трыванне:* **Мяня́цца, пераме́ньвацца і перамяня́цца, зме́ньвацца і змяня́цца, адме́ньвацца і адмяня́цца, перайна́чвацца, зына́чвацца, іна́чаць, перавaро́чвацца, перарабля́цца і пераро́бліваццa, пераўвасабля́цца.**

2. **ПЕРАМЯНІ́ЦЦА** разм. (*у што* і *без дапаўнення:* пераадзець бялізну на сабе) *Гальвас, не маючы ўжо і бялізны перамяніцца, стараўся адчапіцца ад свайго слугі* (Чорны), **ЗМЯНІ́ЦЦА** разм. *Трэба ж, ведама, жаніцца, Каб было ў што змяніцца* (Багушэвіч). *[Богданчык] падумаў, што загібее зусім, калі не зменіцца ў сухое* (Пташнікаў). — *Незак.:* **Перамяня́цца, зме́ньвацца і змяня́цца.**

**ПЕРАМЯНША́ЦЬ** (падаваць, паказваць або ўяўляць сабе што-н. меншым, чым у сапраўднасці). *Вялічка ж нават, калі і было тое дабро, мог пераменшыць яго, каб пасля не каяцца ў сваёй легкадумнасці* (Чорны), **ПРЫМЯНША́ЦЬ** *Афіцыйная статыстыка прымяншала колькасць стачак і стачачнікаў* (Воранава). *Адзначаючы недахопы ранняй творчасці У.Дубоўкі, мы далёкія ад думкі прыменшыць яе значэнне* (Марціновіч), **ЗМЯНША́ЦЬ** *[Данілаў] не схільны змяншаць ролю партызанскіх разведчыкаў* (Федасеенка). *Пра ўсё разважыўшы цвяроза і часу кажучы, бывай! Прашу: таго, што ўзважыў розум, Не паварочвай, не змяншай!* (Броўка). — *Закончанае трыванне:* **Пераме́ншыць, прыме́ншыць, зме́ншыць.** — *Антонімы:* **Перабо́льшваць, перавялі́чваць, гіпербалізава́ць, утры́раваць, мусі́раваць, раздува́ць.**

Філалогія

# Мова: трэцяя крыніца

## Гутарка з кандыдатам філалагічных навук В.М.КУРЦОВАЙ

**— Веранiка Мiкалаеўна, нядаўна Вы абаранiлi дысертацыю на тэму «Стан вясковага народнага вымаўлення ў паўночна-ўсходняй Гомельшчыне». У чым сутнасць Вашай навуковай работы?**

— Даследаваўся сучасны стан вясковага маўлення. Даследаванне мела лакальны характар, але яго вынiкi можна праецыраваць i больш шырока.

**— А якая была патрэба ў гэтым менавiта зараз, калi ўвогуле беларускую мову спрабуюць зрабiць «ненужной»?**

— Справа ў тым, што ў нас цяпер вельмi пашыраныя сацыяльныя, нават палiтычныя ацэнкi маўлення — як небеларускага, так i сапраўды нерускага. Гэта з аднаго боку. З другога, дадзены зноў жа палiтызаваныя назвы гэтаму новастворанаму маўленню як «трасянка», «мешанка» i г.д. Але гэта, паўтару, эмацыянальныя ацэнкi самага звычайнага сярэднягa жыхара. Навуковы ж падыход павiнен, безумоўна, адрознiвацца ад такiх ацэнак i быць канкрэтным. Таму работа была накiравана на тое, каб ахарактарызаваць сiстэму маўлення як сродак эфектыўных зносiн.

**— Што ж сабой яна ўяўляе?**

— Перш-наперш трэба было высветлiць: гэта сапраўды нейкая новая камунiкатыўная сiстэма, адрозная ад беларускай класiчнай лiтаратурнай мовы, ад рускай лiтаратурнай таксама. Цi ёсць яе вынiк iх узаемаспалучэння, iнтэграцыi альбо ўсё ж сапраўды маўленне па-руску цi па-беларуску, толькi са сваiмi малаiстотнымi асаблiвасцямi? Таму напачатку трэба было вырашыць шэраг прынцыповых пытанняў, дзеля чаго стварыць пэўны метадычны апарат даследавання. Традыцыйныя падыходы ў гэтым кiрунку не падыходзiлi. Бо звычайна маўленне ацэньвалася шляхам параўнання з рускай лiтаратурнай мовай. Гаварылi, што ў рускiм маўленнi беларусаў адзначаюцца нейкiя пэўныя адхiленнi ад рускай мовы — «порча языка». Але гэта няправiльна.

**— Чаму?**

— Таму што любая мова, у тым лiку i руская лiтаратурная, — абстракт, свядома створаная нарматыўная сiстэма, якая павiнна задавальняць маўленчыя патрэбы ўсяго грамадства ў пэўны гiстарычны перыяд часу. Адначасова яна iдэальная, бо нескажоная, iснуе толькi ў падручнiках. Але як мы ўсе ведаем, жыццё адрознiваецца ад усялякiх iдэалаў. Яно мае свае законы, па якiх развiваецца. Тое ж самае мы бачым у моўнай сiстэме. У парадыгме мова — маўленне назiраецца вельмi цесная ўзаемасувязь. Таму гэта адзiн бок справы, калi мы ацэнiм маўленне з нейкiх культуралагiчных пазiцый. Сказам, наколькi гэтае маўленне адпавядае рэальна лiтаратурнай мове. Мы закранаем цалкам аспекты культуры маўлення, каб наблiзiць маўленне да законаў граматыкi, да iдэальнага ўзроўню маўлення. На практыцы ж, калi мы гаворым, то наша маўленне працуе на сiтуацыю, з кiм размова, у якiх сацыяльных i эмацыянальных умовах. Таму мы не заўжды i прытрымлiваемся кананiчных лiтаратурных законаў. Але ж усё роўна нейкая сiстэма ўзаемаразумення павiнна iснаваць. Вось мы i ставiлi задачу — дакладна выявiць, як ацанiць гэтую камунiкатыўную сiстэму, ахарактарызаваць яе асаблiвасцi. Была звернута ўвага на «пабытавае» маўленне, найперш на фанетыку. Мы ж ведаем, што законы фанетыкi не заўжды правiльна рэалiзуюцца ў iндывiдуальных узорах маўлення.

**— А якая была патрэба вывучаць менавiта моўную сiтуацыю ў вясковым сельскiм маўленчым асяроддзi?**

— Каб дакладней вывучыць «трэцюю» крынiцу маўлення. Канешне, паколькi наша Беларусь знаходзiцца ва ўмовах двухмоўя (бiлiнгвiзму), нам натуральна трэба высветлiць узаемадзеянне блiзкароднасных моў, усiх моўных сiстэм — рускай, беларускай, але ў вясковым асяроддзi гэта яшчэ i традыцыйныя мясцовыя гаворкi. Час пацвердзiў, што яны не толькi вельмi жывучыя, але на сёння з'яўляюцца дастаткова актыўным сродкам маўлення для сельскiх жыхароў.

**— Ну вось, а частка насельнiцтва на чале з Прэзiдэнтам, пераважна выхадцы з вёскi, лiчаць, што ўсё ўсталюецца, цяпер рускай мове надаць аднолькавы статус з беларускай. Застанецца толькi сесцi перад тэлевiзарам i навучыцца вымаўляць словы так, як маскоўскiя дыктары, каб быць высокакультурным. Значыць, гэтага недастаткова?**

— Гэта павярхоўнае i састарэлае ўяўленне. Узровень грамадства сёння вельмi адрознiваецца ад таго, якi быў, скажам, нават пару дзесяткаў гадоў назад. З аднаго боку, мы засвойваем нейкiя новыя элементы, з другога ж, калi карыстаемся рускай цi беларускай лiтаратурнымi мовамi «дыктарскага» ўзроўню, абавязкова нешта ўносiм яшчэ i з дыялектнай, фанетычнай моўнай сiстэмы сваiх продкаў. Таму мы павiнны ў вясковым сельскiм маўленчым асяродку мець iншыя крытэрыi для ацэнкi моўнай сiтуацыi. З чыста лiнгвiстычных пазiцый сiтуацыя там складваецца так. Цэнтральнае месца ў парадыгме беларуская лiтаратурная мова — мясцовая гаворка — руская лiтаратурная мова займае ўсё ж мясцовая гаворка — тая самая «трэцяя крынiца». З аднаго боку, ёсць абсалютна асвядомленае адрозненне гэтых моўных сiстэм, а з другога, з-за масы фактараў мы ў час гаворкi не кантралюем сваё маўленне.

**— Спрацоўвае падсвядомасць, ранейшы моўны вопыт? Можа i продкаў?**

— Так. I нам трэба было распрацаваць такi апарат даследавання, якi б гэта ўлiчваў. Як i тое, што сельская камунiкатыўная асяроддзе абсалютна адрознае ад гарадскога. Абавязкова трэба было знайсцi крытэрыi ягонай ацэнкi. За аснову ацэнкi пры даследаваннi фанетычнай сiстэмы i была ўзята традыцыйная мясцовая гаворка. Мы яе ахарактарызавалi дастаткова глыбока, але выкраслi не ўсе рысы, а толькi дыягнастычныя, iнакш кажучы, самыя характэрныя для гаворкi.

**— Чым кiравалiся?**

— Дастаткова пабытавым узроўнем. Пры распазнаваннi нейкай з'явы нам зусiм не трэба пералiчваць усю масу рыс. Мы распазнаем яе толькi па некаторых, але самых важных, цi дыягнастычных. Гэта як хворы на прыёме ў доктара. Апошняму дастаткова вызначыць толькi асноўныя асаблiвасцi захворвання, каб паставiць дыягназ. У мове аналагiчна. I таму ўсе асаблiвасцi маўлення пры ўжываннi сельскiмi насельнiкамi iншых камунiкатыўных сiстэм беларускай лiтаратурнай мовы альбо рускай iшлi ў параўнаннi з мясцовай традыцыйнай гаворкай. Зыходзячы з гэтага, i параўноўвалiся моўныя асаблiвасцi гаворачых, якiя арыентуюцца на тую цi iншую моўную сiстэму.

**— Паколькi ў нашым жыццi пэўнае месца занялi кампутары, то, вiдаць, неабходна пры даследаваннях вылучаць дыягнастычны блок рысаў у кожнай моўнай сiстэме?**

— Сапраўды так. Калi ў кампутар занесцi пэўны дыягнастычны блок рысаў, то машына можа выбраць з тэксту ўсе рысы, якiя адносяцца да пэўнай сiстэмы маўлення — рускай, беларускай цi да традыцыйнай дыялектнай. А на падставе гэтага можна зрабiць незалежна ад свайго аб'ектыўнага меркавання вывад аб характары маўлення той цi iншай асобы. Такi падыход мне ўяўляецца абсалютна лагiчным. Трэба выпрацаваць дыферэнцыраваныя ацэнкi маўлення i даць нейкiя практычныя рэкамендацыi, скажам, для работнiкаў радыё. Ацэнка маўлення ў рознай сферы камунiкатыўнай дзейнасцi павiнна быць рознай. А ў нас гэтага няма. Надышоў час сфармiраваць у грамадстве такое меркаванне, што мы павiнны ацэньваць маўленне ў залежнасцi ад камунiкатыўнай сiтуацыi, дыферэнцыравана.

**— I распрацаваць адпаведны метадычны апарат даследавання для ўсёй Беларусi.**

— Так. Мы можам ахарактарызаваць камунiкатыўныя сiстэмы ў розных сферах маўлення. Даць, напрыклад, практычныя рэкамендацыi настаўнiкам у школах розных рэгiёнаў для таго, каб iх дзецi сталi носьбiтамi сапраўды беларускага маўлення. Тут трэба скiравацца на пэўны фанетычны бок маўлення. Так што матэрыялы маёй дысертацыi могуць быць выкарыстаны пры складаннi школьных падручнiкаў, таксама дапаможнiкаў па культуры мовы.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Ключ ад роднай хаты

*«...Ключ ад роднае хаты з сабою ў дарогу бяры,*
*Не губляй гэты ключ, калi хочаш вярнуцца дамоў»*

Пад гэтымi радкамi з паэмы майго земляка i унiверсiтэцкага старога таварыша Леанiда Дайнекi — «Ключ», мусiць, мог падпiсацца не толькi кожны пiсьменнiк, але i кожны «звычайны» чалавек, якi любiць сваю Радзiму. I гэта ўжо аксiёма: не будзе вялiкай, шчырай i самаахвярнай любовi да Айчыны, калi ты забыўся на зямлю сваёй мацi, сваiх дзядоў-прадзедаў, калi не ведаеш нi ўласнага радаводу, нi гiсторыi таго куточка, дзе нарадзiўся: вёскi, райцэнтраўскага гарпасёлка або вялiкага горада.

I яшчэ адзiн маленькi верш Леанiда з ягонай першай кнiжкi:

*«Недзе ля Магiлёва —*
*Майго шчасця падкова.*
*Яе конь партызанскi*
*Там згубiў выпадкова.*
*Недзе ля Магiлёва —*
*Майго сэрца аснова,*
*Найсвятлейшая мара,*
*Найгучнейшае слова».*

Але ж калi i ў Леанiда Дайнекi, i ў Рыгора Барадулiна, i ў Уладзiмiра Лiпскага, i ў iншых вядомых пiсьменнiкаў, якiя неаднойчы звярталiся да тэмы сваiх родных куточкаў, сёння запытацца, як, шаноўныя спадары, жыве-маецца ваша малая радзiма, то ў адказ пачуеш вельмi сумныя словы пра тое, што нiшчыцца прырода вакол iхнiх вёсак i пасёлкаў, што моладзь даўно адтуль з'ехала ў белы свет, а старыя хутка памруць i тады гэтыя мясцiны таксама знiкнуць з карты рэспублiкi (ну, можа, дачнiкi скупяць зямлю i старыя хацiны), што вынiшчаецца роднае слова, што нiхто з унукаў-праўнукаў не ведае гiсторыi сваёй мясцовасцi.

Сумна прызнаваць, але факт застаецца фактам: за гады царскай каланiзацыi i бальшавiцкага таталiтарызму былi размытыя i падсечаныя нашы карэннi, каб толькi ажыццявiць вялiкую славянафiльскую iдэю аб злiваннi беларускай нацыi з расiйскай, у вынiку якой застаўся б «только один язык» i знiкла б мова «брата», запанавала б гiстарычнае бяспамяцтва, а ўжо **пры ўсiх гэтых фактарах варварскае абыходжанне** з прыродай начыста лiквiдавала б у сэрцах нашых землякоў той беларускi дух, якi стварыўся, акрамя ўсяго iншага, яшчэ менавiта прыродным асяроддзем — лугам i рэчкай, полем i лесам, жывёльным светам...

Успомнiце хiмiзацыю, мелiярацыю, неперспектыўныя вёскi, браканьерства тых, хто мае ўладу...

Я нядаўна пагартаў некалькi кнiжак беларускiх пiсьменнiкаў, дзе яны вось гэтым настроем падзялiлiся з вялiкiм колам чытачоў. I ў мяне зарадзiлася надзея: усё ж перажывём гэта лiхалецце — чарговую атаку дэнацыянальных элементаў на беларушчыну, нашы дзецi i ўнукi-праўнукi дазнаюцца, хто i як нiшчыў Беларусь: мову, гiсторыю, культуру, прыроду.

Мусiць, тады нашчадкам будзе лягчэй аднаўляць разбуранае, лячыцца ад бяспамяцтва.

Пра гэта ўсё я згадаў, прачытаўшы найперш кнiгу Уладзiмiра Лiпскага «Адпяванне жывых», выпушчаную ў 1993 годзе выдавецтвам «Мастацкая лiтаратура». Гэты твор — востры, публiцыстычны, пакiсьменнiцку ды па-журналiсцку трывала «скляпаны» — б'е ў званы чытацкай душы: глядзiце, людзi добрыя, хутка застанецеся без сваiх родных куткоў, яны проста знiкнуць i вымруць! А потым знiкне назаўжды ўся вялiкая Беларуская Радзiма! I мне гэта пачуццё знаёма. Бо няма ўжо як гадоў з пятнаццаць маёй бацькаўшчыны i дзядзiны — вёсачкi Чарнец. «Неперспектыўная», удалечынi ад шумлiвых бальшакоў, без уласнай крамы, клуба i ўсяго астатняга ў гэтым плане, яна спачатку згубiла сваю моладзь, а потым i старых — у асноўным адзiнокiх удоў. Хто з'ехаў услед за дзецьмi ў Крычаў, Клiмавiчы цi Магiлёў, а хто проста адышоў у нябыт, зношаны горам, нiшчымнiцай ды непасiльнай працай.

Пасля там, гавораць, быў размешчаны ўчастак навучальнай гаспадаркi Клiмавiцкага ветзаатэхнiкума. А цяпер гэта месца наогул закiнутае, бо шчодра пасыпанае чарнобыльскай атрутай. Вось чаму я разумею Уладзiмiра Лiпскага, чыё вострае дакументальнае слова неадноёчы цаляла не ў брыво, а ў вока той сiстэме, што, аджываючы сваё, творыць зло на нашай зямлi i якую некаторыя з тых, хто трымае ўладу, так хочуць «паднакачаць» анаболiкамi.

Уладзiмiр Лiпскi ў сваiм расповядзе пра родную вёску Шоўкавiчы, якая сёння вымiрае, абнародаваў унiкальныя дакументальныя гiстарычныя сведчаннi гэтага вымiрання. Учытайцеся толькi ў наступныя радкi пра тое, з чаго пачыналася русiфiкацыя ягоных землякоў:

**«Вось засядае Вузнажскi сельсавет. Сакратар Тарасенка мудрагелiстым почыркам, з нацiскам, як вучыць чыстапiс, з прыемнасцю выводзiць: «Пратакол № 24 ад снежня 1925 года». Старшыня Гошка, як заўсёды, хвалюецца, курыць, з кожным здароўкаецца за руку. Дзелавiты. Заклапочаны.**

**— Будзем пачынаць, — аб'яўляе. — Сёння абмазгуем вельмi важнае пытанне «Аб пераводзе школы на беларускую мову». Слова мае настаўнiк Лапыка.**

**Аляксандр Сцяпанавiч падняўся, абцягнуў гiмнасцёрку, абвёў позiркам сялян, пачаў гаварыць аб набалелым i такiм зразумелым:**

**— Таварышы! Усе вы ведаеце, што беларускi народ заўсёды марыў мець школы на сваёй роднай мове. Упершыню мы так блiзка падышлi да сваёй мары. Вы самi, вашы дзецi гавораць па-беларуску. А настаўнiк у школе — па-руску. Дзецi не заўсёды разумеюць яго, таму i вучэнне iдзе цяжка, тугавата. Трэба даваць нашым дзецям веды на роднай мове, а рускую вучыць як прадмет дадатковы, але жыццёва важны. Гэта ж зразумела, таварышы...**

**Сакратар сельсавета Аляксандр Кiрылавiч Тарасенка, як мог, падрабязна засведчыў для гiсторыi тое пасяджэнне. Выступалi амаль усе. Настаўнiка падтрымлiвалi. Здавалася, рашэнне павiнна быць аднагалосным i адназначным. Але яно аказалася нечаканым. У пратаколе так i запiсалi: «На беларускую мову школу не пераводзiць».**

Пiсьменнiк тлумачыць прычыну прынцця такога выраку роднай мове палiтычна-псiхалагiчным фактарам таго часу: на пасяджэннi прысутнiчаў прадстаўнiк валвыканкама, нехта Рымша. Ён i падказаў: нельга, маўляў, крыўдзiць «старэйшага брата».

**«Дыктат пачаўся з таго, што прадстаўнiк вышэйшай улады падняў руку першым: «супраць!» — заўважыў У.Лiпскi i горка рэзюмаваў: — А тады яшчэ процi начальнiка нiхто не адважваўся паўставаць. Ого, зашавялiся толькi, прышыюць тое, чаго зроду не было, што табе i не снiлася».**

Яшчэ адно сумнае сведчанне публiцыста: у Вузнажскай беларускай школе на час напiсання кнiгi «Адпяванне жывых» выкладаюць фiзiку, алгебру, батанiку, геаграфiю па-расiйску. Хаця падручнiкi — беларускiя. Хаця дзецi — вясковыя. Але настаўнiкi — гарадскiя, прыезджыя. I яны, па словах аўтара, знiжаюць ацэнкi вучням, калi тыя адказваюць урок на сваёй мове. Вёска гэта, дарэчы, цяпер знаходзiцца на тэрыторыi Рэспублiкi Беларусь — нiбыта незалежнай суверэннай дзяржавы.

I зноў бязлiтасны ў сваёй праўдзе пiсьменнiк-дакументалiст Лiпскi вядзе свой рэй па гiсторыi роднай вёскi. Гiсторыi крывавай i няшчаснай, бо ненажэрнаму бальшавiцкаму таталiтарызму патрэбныя былi «ворагi народа», каб апраўдаць палiтыку рабаўнiцтва селянiна. Ды знаходзiлi такiх вось «ворагаў» там жа, у вясковых хатах. Нават — сярод актывiстаў сiстэмы. Як, напрыклад, — Тодара Яновiча. А яшчэ — Паўла Янушэўскага, расстралянага па пастанове Асобай тройкi НКУС БССР 9 кастрычнiка 1938 года i рэабiлiтаванага пасмяротна 9 лютага 1959 года.

**«Забiлi мужа i бацьку, калгаснiка i маладога чалавека, касца i аратага. За што? Ды проста так. Трэба было выканаць план па знiшчэннi ворагаў народа... Жах! Валасы i цяпер уздымаюцца дыбам. Давайце, людзi, помнiць урокi злыбяды!» — вось бы гэты заклiк пачулi тыя, хто сягоння ганiць беларускую мову, усчыняе супраць яе становiшча ў Канстытуцыi рэферэндумы, iмкнучыся настроiць у межах рэспублiкi адзiн народ супраць другога, а заўтра... Што будзе заўтра ў гэтым вар'яцкiм коле знiшчэння i самазнiшчэння Беларусi? Цi скончыцца калi бясконцы бег гэтага кола?**

**Алесь МIКАЛАЙЧАНКА.**

